# Газета для вас

ПЛЮС TV — УКЛАДЫШ У НАШУ ГАЗЕТУ: 19 КАНАЛАЎ ТЭЛЕБАЧАННЯ, РЭКЛАМА, АНОНСЫ.

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№41 (252) 13–19 кастрычніка 2000 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ НЕЗАЛЕЖНЫ ШТОТЫДНЁВІК, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997г.




## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



●17 КАСТРЫЧНІКА — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З ГАЛЕЧАЙ—



Фото IREX/ProMedia.

# НІ КРУПІНКІ ШЧАСЦЯ...

У даваенны час у Беларусі налічвалася дзесяць мільёнаў чалавек. Вайна забрала кожнага чацвёртага беларуса. Звыш 50 гадоў спатрэбілася для таго, каб аднавіць колькасць насельніцтва. І вось на днях рэспубліканская газета "Звязда" паведаміла, што ў Беларусі ўжо менш за дзесяць мільёнаў чалавек. Насельніцтва нашай краіны не расце, а змяншаецца. І тым самым — старэе. У Беларусі звыш 2,5 мільёнаў пенсіянераў. Колькасць старых людзей павялічваецца, а ўзровень жыцця няўмольна зніжаецца. Многія з іх жывуць на ўзроўні галечы.

Напрыклад, у Івацэвіцкім раёне зараз 19118 пенсіянераў. Гэта амаль трэцяя частка ўсіх жыхароў. У гэтым ліку 2640 адзінокіх людзей.

Як жа жывуць нашы старыя людзі?

— Хіба ж гэта жыццё? — задаваў пытанне знаёмы стары. — 45 гадоў гарбаціўся, круціў баранку, а выйшаў на пенсію — стаў жабраком. За двацаць тысяч нават не магу пракарміцца, не гаворачы ўжо пра нейкія пакупкі. Іх проста няма за што набываць.

Жорсткай рэчаіснасцю стала існаванне бамжоў, інвалідаў, якія стаяць у людных месцах, ездзяць у электрычках з прагнутай за міласцінай рукою...

*Сяргей СЛАВІНСКІ.*

## Жабрацкая

Не працягвай марна мне далонь, галеча, —
Мне ў яе сягоння нечага пакласці,
Сам іду, панура апусціўшы плечы —
Ні паперкі грошай, ні крупінкі шчасця.

Не глядзі з дакорам на мяне старая, —
Я і сам сягоння ў жабраках у лёсу.
Толькі я дакеміў, хто нас абірае —
Ты ў сваім жабрацтве бачыш волю Боску.

Немагчыма звесці зьлідняў тых, бабуля, —
Нават на распяцце могуць ахрысціцца!
Не дайсці да іх, хоць і паспрабуеш,
бо аховы столькі, што не падступіцца.

Кінь свае спадзевы на мяне, старэча, —
Я і сам сягоння бедны і галодны.
Для мяне, па-твойму, гэта недарэчна...
Але што ж ты зробіш — я паэт народны.

А як будуць грошы — п'яны і вясёлы —
я цыбе прыпомню ды яшчэ ў прыдачу
цыганятак бойкіх, хлопца з куксай голай
і дзядка сівога, што наўмысна плача...

*Юрась НЕРАТОК.*
*в. Хадакі, Івацэвіцкі раён.*

## Расце запазычанасць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Маецца на ўвазе запазычанасць за энергарэсурсы. Сёлета яна па раёне складае: за электраэнергію — 481 мільён рублёў, за прыродны газ — 110 мільёнаў рублёў. Дарэчы, за спажыванне газу запазычанасць хоць і са скрыпам ліквідуецца самім асноўным даўжніком — раённым вытворчым аб'яднаннем жыллёва камунальнай гаспадаркі.

Але вось доўг электраэнергіі не змяншаецца, а, наадварот, павялічваецца. Галоўныя даўжнікі — калгасы і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы.

Як жа спагнаць грошы з даўжнікоў? Раён электрасетак ставіць пытанне аб абмежаванні падачы электраэнергіі асобным калгасам і прадпрыемствам, нават адключэнні іх, калі не вядзецца аплата. Гэта, вядома, крайнія меры, але яны будуць вымушаныя, бо электраэнергія з паветра не бярэцца.

Пагоршылася становішча з забеспячэннем насельніцтва звадкаваным газам. Раённым упраўленнем газавай гаспадаркі прынята звыш трох тысяч заявак на газ. Тым часам складскія памяшканні пустыя. Каб завезці звадкаваны газ, патрэбна валюта. А не кот наплакаў.

*Дзмітрый РЫГОРАЎ.*

## СЕМІНАРЫ назіральнікаў

за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў, якія надзелены такімі паўнамоцтвамі Беларускім Хельсінскім камітэтам (БХК), адбыліся ў мінулую нядзелю ў Баранавічах і Івацэвічах.

Вялі семінары і выступалі перад назіральнікамі старшыня БХК Таццяна Працька, вядомы адвакат Гарры Паганяйла, журналіст Сяргей Аніська. Таццяна Працька ў сваім выступленні падкрэсліла, што назіральнікі, як прадстаўнікі грамадскасці, павінны прасачыць за тым, як захоўваюцца канстытуцыйныя правы грамадзян на выбарах, наколькі іх волевыяўленне з'яўляецца свабодным, і інфармацыю аб гэтым зрабіць галоснай.

Юрыдычным аспектам дзейнасці назіральнікаў прысвяціў сваё выступленне Гарры Паганяйла.

## Памятник повстанцам К. Калиновского

**ПРУЖАНЫ.** 8 октября на военном полигоне недалеко от поселка Ружаны состоялся митинг возле восстановленного памятника повстанцам, которые воевали под знаменами Кастуся Калиновского.

Как сообщил сотрудник областного управления культуры Леонид Нестерчук, в 1863 году на этом месте состоялась битва, в которой погибли повстанцы. Все 40 человек были похоронены в братской могиле. В 30-е годы на месте захоронения был установлен памятник. Однако в 1946 году военные заняли эту территорию под полигон, и несколько лет назад памятник был сильно поврежден. Специально созданная комиссия определила, что военные в этом не виноваты; существует предположение, что кто-то учинил вандализм.

Усилиями местных властей, военных и активистов общественного объединения "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" памятник был восстановлен. Одно время ставился вопрос о его переносе в другое место. Однако решили, что он должен оставаться именно здесь, неподалеку от деревни Ласосин, так как это единственное известное захоронение повстанцев Калиновского на территории Беларуси. В митинге приняли участие около ста человек, в том числе работники управления культуры, учителя, школьники, представители польского консульства, католический ксендз и православный священник.

*Валентина КОЗЛОВИЧ.*

## ПОЧЕМУ Я НЕ БУДУ ГОЛОСОВАТЬ за кандидата в депутаты Палаты представителей Свирида А. В.

Во время избирательной кампании мне пришлось присутствовать на встрече с кандидатами в депутаты Палаты представителей Национального собрания РБ, за которых мы будем (или не будем) голосовать 15 октября этого года. Встреча была в зале заседаний Дома Советов в г. Ивацевичи.

Всем четырем кандидатам в депутаты было задано много вопросов.

В связи с тем, что А. В. Свирид был депутатом Палаты представителей до предстоящих выборов, то ему в основном задавались вопросы о том, что он сделал как член законодательного органа, чтобы людям жилось лучше.

На мои вопросы по применению налогового законодательства, реформировании экономики Александр Владимирович Свирид не дал исчерпывающих ответов, что меня насторожило и вызвало ряд сомнений в его деловых качествах.

На вопрос начальника ПМК-11 Стрельчука Н. Н. о том, что сделал А. В. Свирид для подъема экономики Ганцевичского района как председатель райисполкома и одновременно депутат законодательного органа, мы не услышали тоже аргументированного ответа. А ведь Ганцевичский район в областной сводке по выполнению экономических показателей не в числе лучших.

У меня и многих присутствовавших на этой встрече сложилось мнение, что вряд ли стоит ожидать от А. В. Свирида выполнения его предвыборных обещаний.

Кто много обещает, тот, как правило, мало делает.

Вот почему в день выборов я не могу отдать свой голос за кандидата А. В. Свирида.

*Георгий Сергеевич СЕМЕНЧУК, житель г. Ивацевичи, пенсионер.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Ученые и Чернобыль

***Ученые Беларуси, Польши, России и Украины предложили властям усилить финансовую поддержку исследований по влиянию малых доз радиации на здоровье.***

Об этом было сообщено на VIII международной научно-практической конференции "Экология человека в постчернобыльский период", которая с 4 по 6 октября проходила в Минске.

Конференция, в ходе которой было заслушано 120 сообщений ученых, подвела итоги 14-летнего изучения последствий чернобыльской катастрофы и дала оценку состояния здоровья пострадавшего населения.

Так, наблюдения за ликвидаторами, которые работали в чернобыльской зоне в первый год после аварии на ЧАЭС, позволили сделать вывод: их уровень заболеваемости в 2-3 раза выше, чем у тех, кто не подвергся воздействию радионуклидов. Основные патологии - сердечно-сосудистые заболевания, болезни органов пищеварения, заболевания нервной системы и органов чувств. Более того, ликвидаторы подвержены синдрому старения, их биологический возраст примерно на 10 лет опережает паспортный, что проявляется в "омоложении" таких недугов, как атеросклероз, сахарный диабет, остеохондроз и деформирующие артриты.

## Брестский урок шведам

***Инцидент с участием зарубежных тележурналистов произошел в минувшую субботу в Бресте. Сотрудники Ленинского РОВД запретили сотрудникам 4-го канала шведского телевидения проводить съемки во время встречи с избирателями кандидата в депутаты Георгия Руцкого.***

Георгий Руцкий является членом БСДП (НГ), поэтому журналисты изъявили желание пообщаться с ним и побывать на его встречах с избирателями. Одна из них проходила в центре города, неподалеку от областной библиотеки, на территории Брестского - Западного округа № 1, в котором в качестве кандидата зарегистрирован Руцкий. Буквально сразу же после начала встречи к журналистам подошел сотрудник милиции и через переводчика спросил, имеют ли они разрешение на съемки. Шведы были удивлены, однако съемки прекратили. После переговоров с начальством второй сотрудник милиции велел тележурналистам во избежание неприятностей отправляться на вокзал и уезжать из Беларуси. Это они и сделали, так как через час отправлялся поезд на Варшаву.

## По итогам выборов

***16 октября представители европейской парламентской "тройки" намерены сделать совместное заявление о политической ситуации в Беларуси в свете прошедших 15 октября парламентских выборов. В этом заявлении найдут отражение результаты оценок избирательной кампании со стороны Бюро по демократическим институтам и правам человека (БДИПЧ) ОБСЕ, консультативно-наблюдательной группы (КНГ) ОБСЕ в Беларуси, а также личные впечатления представителей парламентской "тройки".***

В программе визита европейских парламентариев - встречи с руководством Беларуси, с представителями оппозиционных политических партий, правозащитных организаций, исследовательских и аналитических центров, а также Центрального координационного совета общественных объединений по наблюдению за выборами.

*(БелаПАН).*

ЧП

## Трагедия за трагедией

**ПРУЖАНЫ.** Десятого октября на улице Ленина райцентра произошло очередное транспортное происшествие, в результате которого пострадал ребенок — девочка лет 10-12, случайно выбежавшая на проезжую часть дороги из-за стоящего автомобиля и попавшая прямо под колеса автобуса "Пружаны — Сельхозтехника". Девочка умерла моментально, еще до приезда милиции и скорой помощи.

Из-за аварии была образована пробка, и автобусы, едущие в д. Новые Засимовичи, повезли пассажиров через Плебанцы. Это происшествие вызвало всплеск эмоций со стороны большинства семей, у которых дети посещают пружанскую СШ №1, а так же у других жителей, готовых посочувствовать горю родителей, тем более, что это уже третье дорожно-транспортное происшествие со смертельным исходом.

Возбуждено уголовное дело. Идет следствие.

*Юлия ТЕЛЬПУК.*



ГОЛАС НАРОДА

# ШТО ПРЫМУШАЕ ВАС ЕЗДЗІЦЬ НА СЕЛЬГАСРАБОТЫ?

***Любы з нас, хто раніцай ідзе па вуліцы Леніна, непадалёк ад магазіна "Універмаг", можа бачыць вялікі натоўп людзей, апранутых так, як звычайна апранаюцца тыя, хто накіроўваецца на сельгасработы. Сапраўды, ужо многія гады адсюль адпраўляюцца людзі на ўборку бульбы, морквы, ільну ў калгасы. Едуць туды, дзе ўжо няма каму працаваць, дзе не хапае тэхнікі. Едуць тыя, хто не мае работы ў горадзе, ці мае вострую патрэбу зарабіць рубель (альбо з дзесятак кілаграмаў бульбы, морквы і г. д.).***

***Дарэчы, мінулыя гады вакол гэтых паездак хадзіла мноства самых розных чутак — аб тым, як людзі многа бяруць (ці крадуць?) з поля той жа бульбы, як дастаецца таму, хто адвільвае ад працы, і г. д.***

***А што ў сёлетнім годзе? Раніцай, 11 кастрычніка, мы падышлі да вялікай групы людзей, што чакалі аўтобус, і зрабілі невялічкае бліц-апытанне на тэму, што пазначана ў загалоўку (на жаль, усе нашы рэспандэнты былі чамусьці катэгарычна супраць таго, каб іх фатаграфавалі).***

**Антон:** У гэтым годзе працаваць можна. Не тое, што ў мінулыя гады. Раней працавалі па тайнаму прынцыпу: думай не толькі аб заробку (якія былі мінімальныя), але і аб тым, як вынесці дзесятак-другі кілаграм бульбы ці морквы з поля. Сёння ж існуе канкрэтная дамова: 10 працэнтаў з таго, што ты сабярэш, твае. Ніхто не крадзе.

**Ніна:** Я пайшла ў водпуск і трэці дзень на гэтых работах. За дзень з мужам (ён пастаянна ездзіць, бо нідзе не працуе) 150—160 кілаграмаў адборнай бульбы можам зарабіць. Наша бульба змерзла. Я вось сабе думаю — навошта садзіць гэтую бульбу, калі мы можам тую тону зарабіць за тыдзень і не дурыць сабе галаву...

**Віктар**: Някепскія заробкі былі на ільну: некаторыя зарабілі па 6—7 тысяч за дзень і, як бачыце, ездзяць цэлымі сем'ямі. Сапраўды, калі прыедзеш на поле, дзе добрая бульба (а ў гэтым годзе ў некаторых калгасах — "Любішчыцы", "Савецкая Беларусь", "Даманава" — бульба проста выдатная), то можаш някепска зарабіць.

Работы ў гэтым годзе хоць адбаўляй у гэтых разваленых калгасах. Вось зараз кастрычнік, а на палях яшчэ і кукуруза стаіць...

**Галіна**: Але ж трэба працаваць ва ўсю! Вы думаеце там, на полі, хтосьці адвільвае ад працы? Галаву падымі, пастой — адразу крыкнуць.

Я б не адмовілася, каб адразу давалі грошы, хай бы і невялікія. Прыйдзеш з поля — душа баліць. Так хочацца чарачку віна перакуліць.

***P.S. Вось такія рэаліі: чым горш абстаяць справы ў калгасе, тым больш туды едуць гараджане. Ці думаюць яны аб аднаўленні калгаснага ладу? Рытарычнае пытанне. Вядома, не. Іх работа ў калгасах — сведчанне татальнага развалу апошніх.***

*Аляксандр ГОРБАЧ,*
*Наталля КАПЫЦІЧ (фота).*

*г. Івацэвічы.*

ВЫБАРЫ: І СМЕХ, І СЛЁЗЫ

## Пад чый серп сабраліся "каласкі"?

Перадвыбарныя праграмы большасці кандыдатаў да таго аднатыпныя, да таго падобныя, што трэба мець вялізнае цярпенне, каб перачытаць кожную з гэтых праграм.

Таму большасць кандыдатаў на свае ідэалагічныя схільнасці не націскаюць, а больш націскаюць (падчас сустрэч з выбаршчыкамі, у газетных публікацыях) на свае нейкія асабістыя якасці: на сваю амаль паталагічную сумленнасць ці любоў да людзей. Някепска ідуць прамыя ці ўскосныя ўхваленні таго або іншага кандыдата якой-небудзь трэцяй асобай, якая, зразумела, у захапленні (а як жа!) ад кандыдата. Нядаўна адзін з такіх кандыдатаў у адной развясёлай газетцы рэгіёна ўвогуле названы — пашчотна і ласкава — каласком.

Не ведаю, як вам, але вось мне падаецца, што яны, будучыя "слугі народа", сапраўды самыя што ні на ёсць каласкі. Я, канешне, не маю на ўвазе тое, што кожны з іх зусім не такі стройны, як вышэйзгаданы гадаванец палёў — некаторыя ад любві да народа моцна растаўсцелі, кажуць, што любіць народ выгадна, сытна.

Справа ў іншым. У любую хвіліну любога з іх можа шаснуць па нагах лязо сапраўднай улады. Яны могуць быць выкінуты і збіты з поля... прабачце, залы паседжанняў, як некаторыя дэпутаты Вярхоўнага Савета XII склікання, распушчаны — як дэпутаты ВС XIII склікання. А выратаваць іх можа толькі паслухмянасць. Таму гэтыя "каласкі", будзь яны кандыдатамі ці дэпутатамі, могуць толькі шаляслець (маўчаць і слухаць), як кажа адна народная мудрасць.

Паслухмяна, да зямлі хіліцеся, паважаныя "каласкі", каб вас не зрэзалі. Ці не зламалі.

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*

*г. Івацэвічы.*

КРЫМІНАЛ

## Футравыя сюрпрызы

**БАРАНАВІЧЫ.** У дом па вуліцы Клубнай невядомы злодзей пранік праз фортку. Ён украў норкавыя футры і рознае адзенне. Агульны кошт украдзенага склаў больш за 2 мільёны рублёў. Міліцыя шукае злодзея.

*Алесь САШЫН.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 11.10.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2100—2700 | 2100—3000 | 2500 | 2000—2800 |
| Сала салёнае | 1800 | 1800 | 2200 | 2300 |
| Алей (1 л) | 700—950 | 650—950 | 700—850 | 660—980 |
| Яйкі | 600 | 700 | 700 | 600 |
| Малако (3 л) | 500 | 500 | 450—500 | 450 |
| Тварог | 500 | 550 | 650 | 500 |
| Масла сметанк. | 1800 | 1900 | 1800 | 1800 |
| Бульба | 100 | 90—120 | 80—100 | 80 |
| Цыбуля | 250 | 250—300 | 150—200 | 300 |
| Морква | 100—200 | 200 | 200 | 200 |
| Капуста | 90—120 | 120 | 120—150 | 100—150 |
| Грушы | 250 | 250—300 | 200 | 150 |
| Кавун | 200 | 160—180 | 180 | 180 |
| Мандарыны | 1200—1500 | 1500 | 1500 | 1500 |
| Агуркі | — | 150—180 | — | 150 |
| Яблыкі | 100—150 | 100—750 | 100—150 | 100 |
| Памідоры | 400—500 | 350—550 | 450—500 | 400—450 |
| Вінаград | 600—1500 | 1500 | 1200 | 1500 |
| Перац салод. | 500 | 400—600 | — | 500 |
| Часнок | 650—800 | 1000 | 1000 | 800 |
| Лімоны | 1200 | 900—1200 | 1200 | 1200 |
| Апельсіны | 720—800 | 750 | 790 | 720 |
| Бананы | 700—800 | 750 | 700 | 700—900 |
| Дыні | 600 | 600 | 500 | 600 |
| Грэчка | 650 | 650 | 660 | 700 |
| Макар. вырабы | 320—600 | 300—500 | 510—550 | 450 |
| Рыс | 430—450 | 480 | 450 | 460—480 |
| Манныя крупы | 400 | 400 | 400 | 400 |
| Проса | 350 | 360 | 360 | 360 |
| Цукар | 500 | 500 | 500 | 500 |
| Мёд | 3.400 | 3.500 | 3.600 | 3.500 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1040 | 1060 | 1040 | 1060 | 1040 | 1080 | 1040 | 1060 |
| 1 дойчмарка | 480 | 490 | 440 | 450 | 440 | 460 | 440 | 460 |
| 1 рубель Расіі | 37 | 39 | 36 | 39 | 37 | 39 | 36 | 39 |

ВАША ПІСЬМО

# "І куды глядзіць наш прэзідэнт?"

Майму дзядулі ўжо семдзесят гадоў. Паважаны ўзрост. Ён разам з бабуляй займаецца гаспадаркай, у вольны час глядзіць тэлевізар, асабліва цікавіцца навінамі. Калі скажу, што сочыць за палітыкай, падтрымлівае А. Р. Лукашэнку, то гэтага будзе мала. Ён вельмі любіць прэзідэнта і хвалюецца за ўсе добрыя і кепскія перамены ў палітычным жыцці краіны.

Але вось што непакоіць майго дзядулю. Ужо зусім хутка выбары дэпутатаў у Палату , а дзед кажа:

— А каго выбіраць? Я ж іх нікога не ведаю.

Я называю яму прозвішчы кандыдатаў па Івацэвіцкаму і Ганцавіцкаму раёнах, а ён:

— Не, унучка, не ведаю нікога. За каго мы будзем галасаваць? Ведаеш, ты лепш напішы (і куды гэта наш Лукашэнка глядзіць?), што калгас наш разваливаецца, што лазня вельмі часта не працуе, хоць знаходзіцца каля возера, а вады напампаваць не могуць. А ў калгасе, падумай толькі, тры вупражы засталося! На новыя грошай няма. Ну, куды глядзіць наш прэзідэнт? Хай бы прыехаў сюды, я б расказаў яму, што тут робіцца! Ці, можа, напішы ты яму?

Вядома, не за адну лазню і калгас перажывае дзядуля, а за ўсё тое жыццё, што ўжо пражыта. За тое, што ўсё мяняецца ў жыцці зараз, але перамены гэтыя балючыя. А прэзідэнт... Хіба ж прэзідэнт не ведае, якой гаспадаркай гаспадарыць?

*Настасся АБРАМЧУК.*
*Івацэвіцкі раён.*

КОНКУРС

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*КАТЯ, по гороскопу — Водолей. В свободное время читаю художественную литературу, особенно увлекаюсь историческими романами. С удовольствием слушаю певца Энрике Иглесиаса. Нравятся высокие, смелые парни. Внешность — не главное. Главное — добрая душа и сердце.*

ШТО ХВАЛЮЕ

# Бульбяныя клопаты

Закупачны кошт на бульбу ў гэтым годзе застаўся такім жа, як і ў мінулым — 50 рублёў за кг. І гэта пры той інфляцыі за год і росце курсу долара (асабліва Нацбанка). Толькі ў мінулым годзе многія вяскоўцы мелі магчымасць прадаць вырашчанае на сваіх палетках тым жа заезджым украінцам па 110 тыс. руб. за кг. У гэтым годзе ўкраінцаў да нас не прапускаюць, што пацвярджаюць і тыя з іх, што і ў гэтым годзе дапамагаюць убіраць бульбу ды буракі ў Міжлескім калгасе (каля 50 чалавек з Камень-Кашырскага раёна). Адну ўкраінскую машыну, што неяк была заявілася, улады ды асобы "у цывільным", што хутка зрэагавалі на сігнал калгаснага начальства, ветліва папрасілі з'язджаць адсюль і больш не паказвацца, пакуль не канфіскавалі аўтамабіль.

Адзін з мясцовых фермераў, начытаўшыся "Советской Белоруссии", паверыў, што можа без праблем вывезці свой ураджай за мяжу. Зарэнадаваў у калгасе машыну ды сабраўся на Украіну сам, але быў завернуты берасьцейскімі мытнікамі назад. Кажуць, ёсць спецыяльнае распараджэнне прэзідэнцкай адміністрацыі: вывозіць толькі з дазволу аблвыканкама.

Вось і думай цяпер: што рабіць з вырашчанымі бульбай ды моркваи? Здаваць за бясцэнак ці пачакаць якіх лепшых часоў? Многія на вёсцы паступова ўжо сталі сапраўднымі фермерамі, хоць і не называюць сябе так. Ды і надзеі іхнія параўнальна невялікія. Ды ж каб тая ўлада не тое што дапамагала, а хоць бы не перашкаджала.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*
*г. Бяроза.*

ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

# ХОРОШО ПОСИДЕЛИ...

## Некоторые итоги четырехлетней деятельности "палатных" депутатов на ниве экономики эпохи "рыночного социализма"

Минуло четыре года с тех пор, как белорусскому народу навязали "новую" конституцию, благодаря чему в стране утвердилась власть никем не контролируемой бюрократии. Те, кто вписался и поддерживает "новый порядок", утверждают: это именно граждане Беларуси на референдуме 24 ноября 1996 года приняли "судьбоносное" решение. Проще говоря, добровольно сдали сами себя на милость чиновникам.

Тем, кто в свое время ознакомился с проектом "новой" конституции, было ясно, что за громкими фразами о необходимости наведения порядка скрывается лишь одна цель: выйти из-под контроля общества и заполучить право распоряжения всем достоянием народа. И как только удалось покончить с Верховным Советом 13-го созыва, победители немедленно взяли под контроль все наиболее доходные сферы производства и услуг.

"Прихватизацию" богатства Беларуси начали с предприятий народных промыслов, дающих валюту. Они первоочередно попали в ведомство управделами президента - "главного завхоза" Беларуси. Затем им же была взята под контроль аренда помещений в Минске. Очередь дошла до заповедников, где началась вырубка вековых лесов и валютная охота. Очень скоро торговля оружием, спиртом, водкой, сигаретами и т. п. стала исключительной монополией группы власти. Спрашивается: на какие цели были израсходованы многие миллионы, а может и миллиарды долларов, полученные от всей этой деятельности?

Захватив полный контроль над бюджетно-финансовой системой, власть на всю мощь запустила денежно-печатный станок с молчаливого "одобрямс" депутатов Палаты представителей. Результат: внутренний долг Беларуси (это только то, о чем стыдливо сообщает власть) вырос с 0,5 трлн. руб. по состоянию на 1.01.1995 года до 173,3 трлн. руб. на 1.01.2000 года. Или с 50 млн. до более чем 700 млн. долларов США. В экономику была "впрыснута" огромная масса пустых денег, которая уверенно повела страну к инфляции, безудержному росту цен и к глобальному обнищанию граждан Беларуси. Вместо того, чтобы компенсировать им потери от обесценивания вкладов, в стране раскручивалась спираль инфляции. Она дополнительно "съедала" сбережения граждан, не позволяя им самим накопить ни на пенсию, ни на социальное страхование. Она в то же время позволяет власти беспрепятственно финансировать свои чрезмерные и далеко не всегда оправданные расходы. Доведя подавляющую часть населения до нищеты, власть превратила народ в полностью зависимый от нее "человеческий фактор".

Но существующий экономический кризис вряд ли стоит целиком списывать на эксперименты автора "рыночного социализма", на его чрезмерное увлечение строительством спортивных сооружений и игрой в хоккей. Здесь, очевидно, кое-что иное. Наряду с активной работой печатного станка все эти годы поддерживалось наличие нескольких валютных курсов, из-за чего, в первую очередь, страдали предприятия, зависящие от внешних, в основном российских рынков. В сфере обращения наличной валюты процветали "менялы", а государство в это время несло огромные убытки. Даже редкие голоса из правительства о пагубности для экономики наличия такого явления не смогли повлиять на их отмену. Почему? А не в том ли дело, что искусственное поддержание нескольких обменных курсов создало идеальные условия, при которых близкие к власти структуры получили возможность быстрой перекачки бюджетных, то есть народных денег в бездонные внебюджетные фонды? При этом пустые бумажки (кредиты Национального банка на покрытие дефицита бюджета) превращались в полновесные доллары. За пять лет это составило не одну сотню миллионов долларов.

Власть все эти годы трубила о "невиданных" темпах развития экономики и роста внутреннего валового продукта (ВВП). Если за 1995 год этот самый ВВП составил чуть больше 120 трлн. рублей, то за 1999 год - 2788 трлн. руб., или зримо увеличился в 22,3 раза. (По некоторым прогнозам в течение 2000 года он составит не менее 6915 трлн. руб., или возрастет в 57,6 раза.). Странно, почему же при таких "успехах" наблюдается постоянное снижение жизненного уровня населения? Ведь с 1996 года средняя зарплата уменьшилась с 80 долларов США до чуть более 40 за 1999 год. Куда же ежемесячно уходила разница? Складывается парадоксальная ситуация: чем выше результаты труда — тем беднее народ. Когда правительство, то есть исполнительная власть, находилось под контролем Верховного Совета - высшего представительного (народного) и единственного законодательного органа власти, такого роста цен и такого ужасающего падения жизненного уровня населения не происходило.

В демократических государствах для того, чтобы соблюдались законы и права человека, чтобы свести к минимуму коррупцию и помешать чиновникам красть народные деньги, существует разделение властей на законодательную, исполнительную и судебную. Там парламенту принадлежит право не только издавать законы, но и контролировать их исполнение, а также право утверждать государственные расходы или использование исполнительной властью денег из народного кошелька, т.е. только из "прозрачного" бюджета. Исполнительная власть обеспечивает исполнение законов и должна расходовать в строгом порядке выделенные ей деньги. Она ни в коем случае не может иметь доступа к печатному станку, ей запрещено Законом по своему усмотрению печатать пустые деньги, которые обрушиваются на общество ростом цен и нищетой. За чиновниками законодательной и исполнительной власти, которые в той или иной степени имеют отношение к народным деньгам, внимательно следят представители независимой судебной системы. А чтобы на всех ветвях государственного древа произрастали полезные для общества плоды, а не только горькие "дички", за всей этой системой следят квалифицированные и бдительные "садовники" в лице оппозиционных партий и независимых средств массовой информации. В таких условиях нарушать законы и разбазаривать народные деньги становится не только сложно, но и опасно.

В Беларуси практически вся власть находится в одних руках. Действующая нижняя палата белорусского парламента не избрана народом, а назначена единоличным указом и не признана демократическими государствами Европы. Она находится на полном финансовом содержании Управления делами президента. Её депутаты по роду своей основной работы полностью подконтрольны исполнительной власти. Сама же Палата представителей лишена права контроля за деятельностью исполнительной власти и объективно не может влиять на формирование правительства.

В верхнюю палату белорусского парламента "сенаторы" избираются на закрытых заседаниях депутатов местных Советов, тоже бесправных и полностью подконтрольных местной "вертикали". По восемь депутатов от каждой области и г. Минска, а 8 назначает лично Лукашенко.

Таким образом, исполнительная власть полностью выведена из-под парламентского контроля. Не имеет парламент влияния и на Комитет государственного контроля, а значит — не может эффективно контролировать использование бюджетных средств. Вот почему депутаты этой палаты никогда не выступали против постоянного роста цен, а всегда одобряли и поддерживали все действия главы государства, его правительства и вертикали.

Полностью зависима и подконтрольна единоличной власти не только судебная власть и государственные СМИ, но и крупные предприятия и даже рынки, руководителей которых может снимать и назначать президент. Ко всему следует добавить и то, что он имеет право издавать декреты, имеющие силу закона, причем согласно статье 137 декрет может быть выше закона, "...когда полномочия на издание декрета или указа были предоставлены законом".

Чтобы покончить с ростом нищеты народа, что напрямую связано с внедрением модели "рыночного социализма", более известного последователям "ленинизма" как государственный капитализм, демократическая оппозиция требует восстановить конституционную законность в стране, возвратить парламенту присущие только ему функции единственного законодательного органа власти.

Мы требуем ответа на простой вопрос: "Почему чем громче власть заявляет о своих успехах в экономике, тем труднее становится жить простому человеку?" Мы настаиваем на проведении свободных и демократических выборов, так как только они могут позволить сформировать власть, которая будет служить народу, отстаивать его интересы, соблюдать законы и права человека.

Все эти требования проигнорированы нынешней властью, и на 15 октября назначены выборы, в результате которых будет опять сформирован бесправный, полностью подконтрольный "вертикали" парламент. Что он сможет дать людям, избравшим его? И может ли вообще такой виртуальный орган власти принять какое-либо самостоятельное решение, выполняя наказы избирателей? Ответ более чем очевиден. И это надо знать всем тем, кто еще питает какие-то иллюзии, собираясь 15 октября 2000 года идти к избирательной урне. Помните: пока народ не научится, пока не станет контролировать нанимаемую им через выборы власть, эта власть всегда будет довлеть над народом.

*Виктор АЛАМПИЕВ,*
*экономист,*
*депутат Верховного Совета РБ*
*12-го созыва.*

ШТО ЗА СКАРГАЙ?

# АДНЫМ — ВЫГОДЫ, ДРУГІМ — ТУРБОТЫ

**Уладзімір Іванавіч Рабчэня, стараста вёскі Заполле Косаўскага сельсавета, па просьбе аднавяскоўцаў патэлефанаваў у рэдакцыю нашай газеты. Ён прасіў прыехаць у Заполле, каб на месцы паглядзець і ўпэўніцца ў тым, якія выгоды для адных жыхароў абарачваюцца турботамі і нават няшчасцем для другіх. У. І. Рабчэня меў на ўвазе каналізацыйны адстойнік, які не працуе, і нечыстоты заліваюць соткі і двары жыхароў вёскі.**



*У такім стане знаходзіцца каналізацыйны адстойнік у Заполлі.*

*Фота аўтара.*

У пачатку кастрычніка зранку я быў у Заполлі. Разам са старастам У. І. Рабчэнем, жыхарамі А. Д. Гоганам і М. М. Шчурко агледзелі той адстойнік і ваколіцы ля яго. Скажу прама, што малюнак вельмі непрыглядны. Нечыстоты з адстойніка выцякаюць і разліваюцца па прылягаючай плошчы да самай хаты і хлява А. Д. Гогана. Адсюль па трубе, што пракладзена праз вуліцу 8 сакавіка, яны цякуць на агарод М. М. Шчурко, потым па-за хлявом у невялікую нізіну на мяжы з зямельным участкам суседкі Кацярыны Лунь (праўда, ужо нябожчыцы).

Першае, што выклікае абурэнне жыхароў, гэта нечыстоты, якія забруджваюць і зямлю, і паветра, бо знаходзяцца літаральна пад вокнамі хат Гогана і Шчурко. Падругое, змакрэлая і забруджаная зямля ўжо непрыгодная для сельгасработ. Па-трэцяе, у хлеў Шчурко пастаянна падходзіць вада.

— Нам і сваіх пахаў хапае, — кажа М. М. Шчурко, — а тут яшчэ і адтуль цячэ...

Разбаўляе ў прамым сэнсе гэтага слова нечыстоты з адстойніка вада з водаправоднага калодзежа, які зроблены тут жа, ля вуліцы 8 сакавіка, паблізу таго ж адстойніка. Добры быў намер у кіраўнікоў калгаса "Косава" — працягнуць водаправод і па гэтай вуліцы, паставіць калонкі, каб вяскоўцы маглі карыстацца чыстай вадой. Не паспелі зрабіць гэтага дзесяць гадоў таму.

Дык вось ужо каторы год вада хлешча з таго калодзежа. Тут не трэба вялікіх матэрыяльных затрат: замяніць кран або проста паставіць на трубу заглушку. Але і за такую, здавалася б, нескладаную работу ніхто ў калгасе не бярэцца.

Пачыналася ж усё з самых добрых намераў. Пабудавалі ў вёсцы 20 так званых чарнобыльскіх домікаў і, вядома, з усімі выгодамі — водаправод, каналізацыя, ванна, туалет. А каб адтуль, з домікаў, а яшчэ са школы і медпункта, усе, так сказаць, водныя адходы не перапаўнялі ванны і туалеты, будаўнікі, згодна з праектам, узвялі спецыяльны адстойнік ці больш канкрэтна каналізацыйны зборнік аб'ёмам прыкладна на 15 кубаметраў. Адсюль помпай усе нечыстоты павінны адкачвацца на палі фільтрацыі, што размешчаны за жывёлагадоўчай фермай. Гэта каля кіламетра ад адстойніка. Дарэчы, гэты адстойнік пабудаваны ў нізіне, між вясковымі хатамі, там, дзе раней была сядзіба аднаго з запалянцаў, якога называлі французам.

Праўда, жыхары Заполля пярэчылі супраць таго, каб будаваць адстойнік у самой вёсцы між хатамі, што трэба яго вынесці за межы населенага пункта.

— Калі я сказала пра гэта раённаму начальніку Брую, які тут кіраваў будаўніцтвам, — кажа запалянка Любоў Лунь, — то ён мяне і слухаць не схацеў... Папаўся б ён цяпер мне на вочы...

Першыя гады пасля здачы адстойніка ў эксплуатацыю не ўзнікала ніякіх праблем. Электрапомпа працавала і адкачвала ўсе нечыстоты туды, за вёску. Здавалася, што і далей усё будзе добра, без усялякіх збояў. Так было б, калі б абсталяванне помпавай рэгулярна абслугоўвалася. Як толькі сталі адносіцца да яго абыякава, адразу выйшаў са строю электраматор. Спярша рамантавалі, нават другі электраматор паставілі, але і яго потым сапсавалі. У апошні час ужо ніхто гэтыя матory не рамантуе. Калі-нікалі калгас наймаў дзесьці спецмашыну, і нечыстоты адкачвалі і вывозілі. Аднак праз суткі зноў адстойнік запаўняўся, і зноў пачыналася ранейшае "разводдзе".

— Не аднойчы на калгасных сходах у прысутнасці старшыні калгаса Лукашэвіча ўзнімалі пытанне пра гэты адстойнік, — гаворыць У. І. Рабчэня. — Выступала і мясцовы медык. Нядаўна прыязджаў сюды работнік санстанцыі. Усе разумеюць, што трэба неадкладна рамантаваць насосную, але ўсе ахаюць, што калгас бедны і няма грошай на рамонт.

— Да мяне неадназова звярталіся жыхары Заполля, — гаворыць старшыня Косаўскага сельсавета Э. В. Цвірко. — Але мы фізічна не можам нічога зрабіць. Савет і сам бедны. Самі ходзім у калгас і просім, калі што-небудзь трэба...

На жаль, вось такая бездапаможная сёння мясцовая ўлада.

Як сказалі мне ў Заполлі, ёсць рашэнне райвыканкама аб перадачы сельскіх каналізацыйных і водаправодных сетак на абслугоўванне раённаму вытворчаму аб'яднанню жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

— Так, сапраўды такое рашэнне ёсць, — сказаў мне намеснік генеральнага дырэктара Івацэвіцкага РВА ЖКГ А. Ф. Сарока. — Але мы прымаем на свой баланс каналізацыйныя сеткі ў спраўным стане, а ў Заполлі ўсё, як кажуць, дабілі да ручкі і хочуць зараз у такім стане сплавіць камунальнікам. Дарэчы, сёлета ніхто з кіраўнікоў калгаса (а гэта іхнія сеткі) не звяртаўся да нас з просьбай аб перадачы тых сетак, не напісалі нават ніводнай паперкі наконт гэтага. А церпяць ад такой бескалотнасці і безгаспадарчасці простыя людзі...

Што ж далей? Як сказаў мне А. Ф. Сарока, на гэтым тыдні раённая камісія пабывае ў Заполлі і вырашыцца пытанне аб рамонце і перадачы калгасных каналізацыйных сетак камунальнікам. Застаецца набрацца цярпення і пачакаць.

І напрыканцы хочацца спыніцца таксама на вельмі важнай акалічнасці. Як ужо было сказана, усе нечыстоты з перапоўненага адстойніка цякуць ля хат і па агародах вяскоўцаў і збіраюцца ў нізіцы на мяжы двух суседзяў — Міхаіла Шчурко і Кацярыны Лунь. Адсюль нечыстотам няма куды дзявацца. Дапусцім, што новыя гаспадары адстойніка зробяць тут рамонт, і тэрыторыя, залітая нечыстотамі, паступова ачысціцца ад іх. Аднак праблема з затапленнем вясковых агародаў яшчэ не вырашыцца. І вось чаму.

Праз вуліцу 8 сакавіка якраз ля дома А. Д. Гогана пакладзена тоўстая труба (дарэчы, ён сам яе і паклаў), праз якую ўся вада, што збягае з пагоркаў сюды (цячэ асабліва вясной, а таксама ў час зацяжных дажджоў і ліўняў), збіраецца ў той жа нізіне. Вяскоўцы прапаноўвалі і не раз, каб ад той нізінкі пракапаць невялікую канаўку (а гэта метраў 70—80) да глыбокага канала, які праходзіць за агародамі запалянцаў, што жывуць з усходняга боку вуліцы 8 сакавіка.

— Гэта ў нашых сілах зрабіць, — сказаў мне старшыня Косаўскага сельсавета Э. В. Цвірко. — Вось трактар у калгасе адрамантуюць, тады і пачнём...

Відаць, не варта рабіць канчатковыя вывады з усяго сказанага. Мы абавязкова вернемся да гэтай тэмы і раскажам нашым чытачам, што ж зроблена ўладамі і калгасам па скарзе жыхароў вёскі Заполле.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*
*в. Заполле, Косаўскі сельсавет Івацэвіцкага раёна.*

**АД РЭДАКЦЫІ. Калі гэты матэрыял быў гатовы да друку, стала вядома, што прынята рашэнне Івацэвіцкага райвыканкама № 498 ад 4.10.2000 г. У ім сказана:**

**"10. УКСу райисполкома (Кронда П. В.):**
**10.2. В срок до 15 октября т. г. включить в работу КНС в д. Заполье, обеспечив поступление стоков на поля фильтрации".**

ЗНАК БЕДЫ

# Мама... Убийца?

**Мама... Мамочка...**
**Сколько нежности и тепла вкладываем мы в это коротенькое, но такое главное в жизни слово! Плохо нам — печалится мама и помогает добрым советом, радость у нас — и светятся от гордости и любви мамины глаза.**

**В этих строках не сказано ничего нового, не открыто ничего доселе неизвестного. Это святая истина жизни, передающаяся поколениями.**

**А вот история, случившаяся в д. Слободка Пружанского района, буквально шокировала своей дикостью и жестокостью людское сознание, поставила с ног на голову все устоявшиеся веками истины.**



Первыми в недоумение пришли соседи молодой женщины, на протяжении не одного месяца наблюдавшие ее беременной. И, казалось бы, вместе с ней ожидали: кто же появится на свет: сыночек или доченька?

Но порадоваться вместе со счастливой мамашей не довелось. Ибо сама беременность легла тяжким грузом на плечи женщины, да и сам ребенок не был желанным и долгожданным. Наряду с вопросом: "Что делать?" у этой несостоявшейся матери уже давно созрел ответ. Страшный, не соответствующий ни законам природы, ни людской морали.

...Пакет с новорожденным на деревенском сметнике нашли те же соседи, которые так и не дождались праздника и не увидели радости в глазах матери.

Тут же тревогу забили и местные врачи-гинекологи, к которым женщина обратилась за помощью с кровотечением. Убедившись в том, что кровотечение вызвано недавними родами, врачи задались вопросом: а как протекала беременность, как состояние новорожденного? И вообще, где он сам? Ведь на учете в женской консультации женщина не стояла, да и роды врачи не принимали.

Вот так и открылась эта страшная трагедия, черной вестью облетевшая район. И получила однозначное осуждение в народе — это не мать. Разве может женщина, дав жизнь ребенку, а потом собственноручно загубив его, носить это святое имя — Мать?

*Кристина КРУГЛЕВИЧ.*
*г. Пружаны.*

БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ

# Сеялі, сеялі кукурузу...

Ящчэ нашы продкі высока цанілі пажыўныя якасці кукурузы. Дзеці, як правіла, любілі і любяць вараныя качаны або кіяхі (у рознай мясцовасці па-рознаму іх называюць). Асаблівы кукурузны бум наступіў у краіне ў час кіравання М. С. Хрушчова. Кукурузу сеялі нават у тых гаспадарках, дзе яна зусім дрэнна сябе адчувала. І сёння кукуруза, як добры корм жывёле, не забыты ў нашых калгасах і саўгасах.

Сёлетні год аказаўся неспрыяльным для нарыхтоўкі кармоў для грамадскай жывёлы. Мала назапасілі сена і сенажу. Уся надзея была на кукурузу. У многіх гаспадарках Івацэвіцкага раёна к канцу лета яна вырасла ндрэннай. Але вось з уборкай не спяшаюцца. Прычыны адны і тыя ж: не хапае тэхнікі, няма гаручазмазачных матэрыялаў. Напрыклад, у брыгадзе вёскі Заполле (калгас "Косава") кукурузу, якой сто гектараў, толькі пачалі ўбіраць. Пасохлая кукуруза чакае ўборкі ў калгасах "Бальшавік", "Савецкая Беларусь", саўгасе "Перамога"... А на двары — сярэдзіна кастрычніка. Страчаны не толькі тэрміны ўборкі каштоўнай кармавой кукурузы, але і яе пажыўныя якасці. Па ўсім відаць, і кармы не будуць вызначацца высокай каларыйнасцю ці, як прынята лічыць, не будзе патрэбных кармавых адзінак. Каго ж тады вінаваціць у недахопе кармоў? Ці зноў усё спішуць на непагадзь?



*Кастрычнік 2000 г.: кукурузнае поле калгаса "Бальшавік".*

*Фота аўтара.*

*Кастусь ДЗЯМЧУК.*

